# З жыцьця „Грамады“.

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

99. 4./VI. у вёсцы **Селец**, Ганчарскае гм., Лідзкага павету.

100. 30./VII. у вёсцы **Казённыя Омневічы**, Гарадэчанскае гм., Наваградзкага пав.

101. 1./VIII. у вёсцы **Дзімітрыкі**, Ганчарскае гм., Лідзкага павету.

102. 2./VIII. у м-ку **Сьвятаволі**, Сьвятавольскае, гм., Косаўскага павету.

103. 3./VIII. у вёсцы **Пуцавічы**, Гарадэчанскае гм., Наваградзкага павету.

104. 2./VIII. у вёсцы **Глушкі**, Сьвіслацкае гм., Ваўкавыскага пав.

105. 2./VIII. у вёсцы **Стральцы**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.

106. 29./VII. у вёсцы **Яруга**, Райчанскае гм., Наваградзкага пав.

107. 1./VIII. у вёсцы **Була**, Косаўскае гм., Косаўскага пав.

108. 27./VII. у вёсцы **Юхновічы**, Міжэвіцкае гм. Слонімскага пав.

109. 25./VII. у вёсцы **Вярхлесьсе**, Шудзялоўскае гм., Сакольскага павету.

110. 2./VII. у вёсцы **Дзешкавічы**, Старавескае гм. Слонімскага пав.

111. 3./VIII. у вёсцы **Бандары**, Азёрскае гм., Горадзенскага пав.

112. 2./VIII. у м-ку **Глыбокім**, Глыбоцкае гм., Дзісенскага пав.

113. 18./VII. у вёсцы **Палаткава**, Горніцкае гм., Горадзенскага пав.

114. 1.VIII. у вёсцы **Капцёўка**, Горніцкае гм., Горадзенскага пав.

115. 1./VIII. у м-ку **Казлоўшчыне**, Казлоўскае гм., Слонімскага пав.

116. 1./VIII. у вёсцы **Варонічы**, Міжэвіцкае гм., Слонімскага пав.

117. 1./VIII. у вёсцы **Качкі**, Сьвіслацкае гм., Ваўкавыскага пав.

118. 1.VIII. у м-ку **Тэлеханы**, Тэлеханскае гм., Косаўскага пав.

119. 1.VIII. у вёсцы **Вялікія Навасёлкі**, Росьскае гміны, Ваўкавыскага павету.

## Павятовы зьезд Грамады.

У нядзелю 22-га жніўня адбудзецца з дазволу Пастаўскага Старасты павятовы зьезд Грамады Пастаўскага пав., у м-ку Паставах.

Зьезд пачнецца ў 10 гадз. раніцай у доме Асіненка, Дварцовая вул. № 10.

На зьезьдзе абавязкава павінны быць: усе давераныя асобы, усе Камітэты Гуртκоў, і пажадана, каб былі ўсе сябры Гурткоў Грамады, якія маюць ужо на руках партыйныя білеты.

Парадак зьезду такі: 1) Справаздача паслоў, 2) Справаздача аб працы на мяйсцох, 3) Арганізацыйныя справы, 4) Выбары Павятовага Камітэту, 5) Бягучыя справы.

Камітэтам Гурткоў Грамады ў Пастаўскім павеце прапануецца апавясьціць усіх сяброў сваіх аб зьезьдзе, пры тым зазначыць ім, што едучы на зьезд, сябры павінны мець з сабою ежы на адзін дзень.

Кошты падарожы на зьезд павінны быць пакрыты Камітэтамі Гурткоў. У крайніх выпадках кошты праезду чыгункай сяброў Грамады могуць быць вернены ў канцы зьезду з агульных сумаў Цэнтральнага Сэкрэтарыяту.

На зьезьдзе могуць быць прысутнымі і госьці па „запросінах“. Госьці рашаючага голасу ня маюць.

## Забароны мітынгаў.

Мітынгі паслоў Грамады ў Занарочы, Пастаўскага пав., і ў Наваградку, назначаныя на чацьвер 19-га гэтага жніўня, не адбудуцца з прычыны забароны з боку ўлады.

Забарона матывуецца: „Ze względu na bieśpieczeństwo i porządek publiczny“.

## Паведамленьне Цэнтральн. Сэкрэтарыяту.

Білет № 1874, выданы 1./VIII. сяброўцы **Нерад Кляры, уневажняецца**, як страчаны праз яе. Новы выдаецца за № 4745.

Пасьведчаньне, выданае на імя **Янкі Шышко** за № 1048, як старшыні Селецкага Гуртка, **уневажняецца**. Новае выдаецца на імя **Юльяна Шэшко** за № 1196.

Пасьведчаньне, выданае на імя **Перавалоцкага Мікалая** за № 70 ад 5./VI., з прычыны яго страты **ўневажняецца**. Новы выдаецца за № 1240.

## ППС і амністыя.

Орган партыі ППС.—„Robotnik“ (№ 221) перадруковывае ўсю ману буржуазнай прэсы аб францускім Камітэце дзеля барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў. Ад сябе „Robotnik“ дадае: „зьмяшчаем інфармацыі аб працы камуністычнай арганізацыі, якая паставіла сабе мэтай аскандаліць Польшчу“.

Вось да чаго ўпалі гэтыя лякаі буржуазіі,— казённыя сацыялісты! Польшчу, паводлуг іх, скандаліць ня той, хто гноіць па турмах тысячы работнікаў, у тым ліку і сяброў партыі ППС, а той, хто гаворыць аб зьдзеку буржуазіі над працоўнымі масамі ды протэстуе проці гэтага.

## Гатуюць голад у краі.

Апрацаваны мін. ўнутраных спраў праект „забясьпечаньня апраўвізацыі краю“ мае дазволіць неабмяжаваны вываз з краю збожжа аж да канца кастрычніка, а толькі ад лістападу пачаць тасаваць кантроль ды забарону. Ці ня будзе запозна.

---

Аканчальна ўвесь слоўнікавы матар'ял, колькі ў каго будзе сабрана, належыць прыслаць не пазьней 1 студзеня 1927 году.

Асобам, якія даставяць найлепшыя слоўнікавыя матар'ялы, будуць выдадзены прэміі.

**Узор карткі!**

*ЗЫ́РКА*

*ярко.*

*Дровы зырка гараць у печы.*

*Вёска Ваўкалака, Вялейскага пав. (Ів. Бабарэка).*

## Камунікацыйная ўмова між Польшчай і ССРР.

13 жніўня падпісаны дагавор між Польшчай і ССРР у справе чыгункавай камунікацыі.

## Адмова ў легалізацыі манархічнай партыі.

Урад Бартля адмовіў легалізаваць рад манархічных установаў: партыю і т. п. Манархісты падалі апэляцыю ў Адміністрацыйны Трыбунал.

## Забастоўка ў Сойме.

Некалькі ўжо дзён бастуюць усе работнікі, занятыя пры будове новага крыла соймавага будынку ў Варшаве.

Прычына—нявыплата грошаў работнікам.

# Заграніцай.

## Пажаданыя госьці.

На восень маюць прыехаць у Польшчу для агляду вастрогаў францускія і ангельскія пісьменьнікі. Стараецца аб з'арганізаваньні гэтай паездкі ведамы францускі пісьменьнік—Барбюс.

## Забастоўка вуглякопаў у Англіі.

Сэкрэтар фэдэрацыі вуглякопаў Кук заявіў прэсе: „цярпелі мы ўжо досьць і дзеля таго не дапусьцім, каб прыйшлося цярпець больш“.

Кук выразіў надзею, што ангельскае грамадзянства падтрымае дамаганьні вуглякопаў.

## Іамэрыканскія работнікі памагаюць ангельскім вуглякопам.

Амэрыканскія работнікі выслалі ангельскаму забастовачнаму камітэту першую дапамогу ў суме 1 мільёну даляраў. Абяцуюць і далейшыя раты. Хай-жа ангельскі ўрад спрабуе патрэбаваць ад амэрыканскага, каб той забараніў гэтыя дапамогі, як гэта трэбаваў ён ад ураду ССРР!..

## Выбухі фабрык і складаў амуніцы.

У цэлым радзе дзяржаў — у Вэнгрыі, Італіі і інш. зрабіліся вялізарныя выбухі фабрык і складаў амуніцыі.

## Францускa-румынскі проці радавы трактат.

Трактат між Румыніяй і Францыі мае сілу на 10 гадоў. Абедзьве дзяржавы гарантуюць адна аднэй дзяржаўныя граніцы (Бэсарабію!) і абязываюцца памагаць сабе ўзаемна—на выпадак нападу... Ясна, што трактат скіраваны перадусім на абарону тэрытарыяльных захватаў Румыніі, якая дае Францыі за гэта розныя іншыя рэчы.

У радавай прэсе трактат выклікаў страшэннае абурэньне проці Францыі. У выніку гэтага францускі ўрад афіцыяльна заверыў Маскву, што трактат зусім не скіраваны проці ССРР. Але, ведама-ж, гэта не супакоіла радавага ўраду, і Чычэрын загадаў Ракоўскаму давясьці да ведама францускага ўраду, што параграфы трактату, якія датычаць Бэсарабіі, могуць вельмі папсаваць франциска-расейскія адносіны...

## Роспуск францускага парляманту.

11-га жніўня разьехаліся на вакацыі, пасьля прыняцьця ўсіх праектаў ураду, абедзьве палаты францускага парляманту.

Француская буржуазія трыумфуе: у Францыі, як і ў Польшчы, галоўны цяжар ратаваньня фінансаў дзяржавы ёй удалося зваліць на плечы працоўных. Дык могуць паны дэпутаты пасьля гэтага й супачыць!

## Радавая авіацыя.

Morning Post“ падае гэтакія весткі: чырвоная армія мае ў сучасны мамэнт 2.000 аэраплянаў і 90.000 жаўнераў у атрадах авіацыі. У ССРР існуе 12 спэцыяльных школ, з'арганізаваных па заходня эўрапэйскаму тыпу.

## Безрабоцьце ў Нямеччыне.

Лік зарэгістраваных безработных у Нямеччыне на жнівень месяц г. г. аблічываюць на 1 мільён 328 тысяч.

---

# ХРОНІКА.

**„Ашчасьлівяць“ наш край!** Ня так даўно п. Камісар Ураду на м. Вільню сканфіскаваў газэту „Беларуская Справа“ за перадрук з „Dzien. Wil.“ заметкі пад загалоўкам: „Крэсы — месца ссылкі“. А вось у нумары з 11 жніўня органу п. Пілсудскага „Głos Prawdy“ чытаем гэткую „уласную тэлеграму“ з Любліна з 10 жніўня с. г.:

„Тут распачата ліквідацыя скандальных адносінаў, якія ад нейкага часу панавалі ў тутэйшай паліцыі. У выніку гэтае ліквідацыі надкамісар Шпаля **перанесены ў Наваградзкае ваяводзтва**, камісар Ідчаковскі—**ў Палескае ваяв.**, кіраўнік І-га камісарыяту Скальскі — **ў Беластоцкае ваяводзтва**. Тры другія вышэйшыя афіцэры паліцыі, іменна Галера, Пісарскі і Вояковскі, за ўчыненыя надужыцьці будуць адказваць перад судом“.

Спадзяемся, што гэтым разам п. Камісар Ураду не скафіскуе нашае газэты за гэты перадрук!

**Такса на пасьбішча.** Дырэкцыя дзяржаўных лясоў абявіла таксу за пасьбішча на тэрыторыі дзяржаўных лясоў дырэкцыі Белавежскай. Паводле гэтай таксы, за адну штуку рагатай жывёлы выш 2 год — плаціцца 1 зл., за штуку ад паўгоду да 2-х — 50 гр. і ад цялят да паўгоду плаціцца 25 гр. Гэтыя цэны адносяцца да надлясьніцтваў: Белавежскага, Бродскага, Берасьцейскага, Дэрэчынскага, Дрогічынскага, Гайноўскага, Ялоўскага, Картуз-Бярэзкага, Кобрынскага, Калпеніцкага, Косаўскага, Каралеўскага, Ласьнянскага, Маларыцкага, Нарэўзоўскага, Наваградзкага, Ружанскага, Слонімскага, Старэнцкага, Сьвіслацкага, Шэрэшэўскага, Вядатупіцкага, Валкавыскага, Здзяцяльскага, Ягайлонскага, Ашчэнскага, Рудзкага. Надлясьвіцтвы Ганцэвіцкае, Любешэнскае, Лунінецкае, Аздаміцкае, Пінскае і Белацяльковіцкае — плацяць за штуку больш 2-х гадоў 50 гр., ад паўгоду да 2-х—35 гр.

(„Biel. Krynica“ № 27).

**Раскол у хрысьціянскім саюзе пекароў.** Большая часьць сяброў „хрысьціянскага саюзу з прычыны буржуазнай палітыкі ўправы — пастанавіла перайсьці ў **клясавы** прафэсіянальны саюз.

**Хочуць абніжыць заработкі.** У шклянай гуце на Кальварыйскай вуліцы ўласьнік паставіў работнікам варунак, што, калі яны ня згодзяцца на зьніжэньне платы,—гута ад 16 г. м. будзе зачынена.

**Пагроза забастоўкі ў фабрыцы „Poltkan“.** Ідзе тутка спор між уласьнікамі і работнікамі на груньце заработнай платы.

**„Саюз былых палітычных вязьняў“.** У Вільні творыцца аддзел Саюза б. палітычных вязьняў— з тых часоў, калі землі, якія цяпер уваходзяць у склад Польскае дзяржавы, знаходзіліся пад уладай Расеі, Аўстрыі і Нямеччыны.

Саюз, цэнтр якога знаходзіцца ў Варшаве, зьяўляецца арганізацыяй беспартыйнай і гуртуе былых вязьняў—учасьнікаў сацыяльна-вызвольных рухаў, якія і **пасьля не выступалі супраць гэтых рухаў**. Мэта яго—матэрыяльная, маральная і культурная дапамога сябром.

Віленскі аддзел арганізуе грам. Дамінік Рымкевіч (Вільня, Сьвянцянская 4, кв. 2).

Можна толькі пашкадаваць, што Саюз абыймае такі вузкі круг дзейнасьці. Палітычных вязьняў—запраўдных рэвалюцыянераў, якія ад часу ўваскрашэньня Польшчы папраўдзе не пайшлі супраць тых ідэалаў, за якія змагаліся пад уладай расейскіх, аўстрыяцкіх ды нямецкіх цароў,—вельмі-ж ужо мала! Наадварот, Саюз меў-бы непараўнальна больш сяброў, калі-б абняў і ўсіх палітычных вязьняў у незалежнай Польскай рэспубліцы... Тады ён зрабіў бы шмат больш карысьці.

**Да справы адкрыцьця Каапэратыўна-Гандлёвых Курсаў.** Надовячы мы па просьбе Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры зьмясьцілі абвестку яго аб тым, што ў Вільні гэтае таварыства адчыняе ў найбліжэйшым часе Каапэратыўна-гандлёвыя Курсы і прымае запісы на іх.

Цяпер Бел. Інст. Гасп. і Культ. абвяшчае, што дзеля незалежных ад яго прычын Курсы гэтыя адкладаюцца на неазначаны час.

Вельмі шкадуючы, што гэткае добрае пачынаньне скончылася няўдачай, мы павінны адзначыць, што такія няўдачныя прадпрыемствы вельмі блага адбіваюцца на адносінах насяленьня да беларускіх культурных пачынаньняў і ўстановаў наагул, выклікаючы недаверые да іх. Грамадзкім установам трэба быць больш асьцярожнымі ў сваіх абяцанках!

**Зваліўся аэраплян.** Пілот І. Сенкоўскі, з 11-га палка авіацыі, кватаруючага ў Лідзе, 13 г. месяца зваліўся разам з аэраплянам далоў. Прычына катастрофы—занадта шыбкі лёт. І. Сенкоўскага падабралі мёртвым.

**Катастрофа на чыгунцы.** На лініі Маладэчна—Вільня здарылася катастрофа. Пасажырскі цягнік, ідучы ў Вільню, недалёка ад станцыі Смаргоні ўзьехаў на спутанага каня. Паштовы вагон, ідучы за паравозам,—зыйшоў з рэльсаў. Машыніст адразу затрымаў цягнік, дзякуючы чаму страт у людзях ня было.

**Спальныя вагоны 3-яй клясы.** Міністэрства чыгунак дасьць дазвол міжнародаваму таварыству спальных вагонаў — пусьціць у рух у Польшчы спальныя вагоны 3 клясы.

**Афіцыяльны курс грошы на 17-га жніўня.** Даляр—8 зл. 98 гр. Залаты рубель — 4 зл. 63 гр.

17. VIII на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,05. Зал. руб. 4,63. Чырвонец 44.

# Папраука.

У № „Беларускай Справы" ў карэспандэнцыі з Пінску сказана, што левыя поалей-ціоністы ўвайшлі ў Міжпартыйны Камітэт дзеля барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў.

У міжпартыйнай нарадзе, праўда, яны ўчасьце прынялі, але яшчэ перад тым, як прыйшлося прыступіць да актыўнай работы, калі трэба было адаслаць пратакол да староства, прадстаўнік левых поалей-ціоністаў спудзіўся ды адмовіўся яго падпісаць.

Сцьвярджаем, што гэтакім учасьцем поалей-ціоністы толькі тармазяць працу.

**Міжпартыйны Камітэт дзеля барацьбы за звальненьне палітычн. вязьняў у Пінску.**

# 3 жыцьця Горадні.

## Міжпартыйны Камітэт дзеля барацьбы за звальненьне палітыч. вязьняў у Горадні.

10 га г. м. адбылася нарада прадстаўнікоў: 1) Беларускай Сял.-Раб. Грамады, 2) Поалейціон і 3) Праф. Саюзаў (спажыўцы, ігла, хэмічны, старажы, транспартоўцы, гандлёўцы, гарбары). Пастаноўлена залажыць Міжпартыйны Камітэт у Горадні дзеля барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў.

Не зьявіліся, паміма запросін, на нараду 1) ППС 2) „Бунд", 3) ад праф. саюзаў: табачнікі, чыгуншчыкі, друкары, і гарадзкія работнікі.

У Сэкрэтарыят увайшлі 7 асоб.

# Карэспандэнцыі.

## Нацыянальнага ўціску ў Заход. Беларусі няма.

(Піншчына).

У вёску Малае-Марочна, Марачанскай гм., 27-га ліпня гэтага году прыйшоў лясьнік з Марачанскага двара — Кот, які зьяўляецца аднача сна шпікам. Гэты чалавек, пабачыўшы ў селяніна Мікалая Багна скрынку для ахвяр на карысьць беларускай школы, пабег зараз па камэнданта паліцыі.

Паліцыянт № 332 і шпік — лясьнік уварваліся ў хату, паклікалі гаспадара, зьнялі з сьцяны скрынку, расьпячаталі яе і забралі разам з грашыма ў суме 2 зл. 19 грош. Тут-жа пачалося „badanie", адкуль узяў селянін скрынку, ды хто даў на яе дазвол. Напісалі пратакол на Мікалая Багна і Мікалая Малойчыка, які атрымаў яе ў аддзеле Беларускага Каапэратыўнага Банку ў Пінску. **Сьведка.**

**Ад Рэдакцыі.** Пытаемася ў пана Старосты Пінскага павету: ці ведамы яму гвалт, які ўчыніў паліцыянт № 332 і шпік Кот, ды калі скрынка з грашыма будзе вернена?

## Няўдачы вучаць.

(В. Рымкі, Пастаўскае гм.).

Атрымаўшы ад Сэкрэтарыяту Грамады патрэбныя інструкцыі, я хутка пачаў працаваць па арганізацыі гурткоў. Праўда, прыхільнасьці да Грамады ў нас хоць адбаўляй, але дзела з арганізацыяй на першы пачатак затрымалася. Усе жадаюць, каб хто-небудзь пачаў першы, а тады ўжо пойдуць яго сьлядамі.

Не памагло тутака ні завярэньне, што нашая партыя — легальная, ні тое, што ў другіх мясцох ужо даўно працуюць гэтыя арганізацыі. Усюды адказвалі: „Працуйце. Мы вам паможам. А далучымся потым".

Калі зьвярнешся да якога-небудзь інтэлігента за помачай, то апошні азіраецца пабакох і ціханька на вуха скажа: „Я з вамі, але, думаю, што балей карысьці Грамадзе прынясу, калі буду працаваць не ўваходзячы ў гурток".

— „Дзякуй за гэта" думаеш сабе і адыходзіш, бачучы, што тут толку ня будзе.

Але кажуць, што няўдачы вучаць людзей. Вось і на гэты раз, спатыкнуўшыся на адну-другую няўдачу, знайшоў я пэўны спосаб.

Пакінуўшы спаць сваю „інтэлігенцыю", узноў зьвярнуўся я да вясковых, маладых хлапцоў ды больш сьвядомых, прачытаў ім праграму, інструкцыю і, убачыўшы, што ў іх аж вочы гараць ад цікавасьці, клікнуў: „Хлопцы за працу!".

Бачу: праца наладжываецца. Вось, ужо зложаны 10 дэкларацыяў, і спадзяюся, што хутка ўся наша ваколіца „аграмадзіцца" ад маленькага да старога.

І гэтак—у Грамаду, Сяляне! Дайце сваю мазалістую руку парабку і рабочаму места, ды разам да сьветлае будучыны! **П—ны.**

## Муліцца ім „Грамада".

(З Дзісеншчыны).

Ксяндзы ў Празароках і Баброўшчыне, (а напэўна і ня толькі ў нас!) аж рычаць ад злосьці, гледзячы на рост Грамады. Лаюць яе ўсяк — і бальшавіцкай, і камуністычнай, нарэшце і „д'ябэльскай", абяцуючы пекла таму, хто запішыцца ў яе. Але гэтае мала памагае. Бо вядома: мужыку цяперашняе жыцьцё на зямлі—нічым ня лепшае, як у пекле.

А панок К. з фальварку Старасельля, Празароцкай гміны (хаця ён сам, праўду кажучы, толькі вось панскі халуй!), хвалячы і чакаючы „круля" і бэсьцячы ўсё мужыцкае, з заціснутым кулаком, прызнаўся, што „ў разе чаго, дык яго рука ня здрыгнецца".

Дзякуем хаця за шчырасьць, бо ведаем, каму назначаецца пагроза! Наш народ гэтага не баіцца, наслухаўся ён ня толькі пагроз, але пераносіць зьдзекі. Толькі глядзі, панок, каб часам, праваkуючы, не нарваўся на якую брыдкую гісторыю! Мы цярплівыя, але ў вочы пляваць сабе на пазволім!..

Ведама, — пасьля „маральнай рэвалюцыі" панкі чуюць сілу, але іхная сіла збудавана на кулаку, дык яна часовая. Цар ня гэтакі быў дужы, а паглядзіце, што з ім цяпер! Перажывем мы і паноў.

Браты,—памятайце,—што Грамада — гэта партыя не бальшавіцкая, ні камуністычная, а легальная, зацьверджаная ўладай. Гэта кажыце кожнаму, хто хоча вас напужаць, або справакаваць. **Нядоля.**

## Толькі здыхаць можна.

(Празароцкая гм., Дзісенскага пав.).

Жыве тутака добра ўсім знаны, дужа бедны Грыневіч бязрукі. Бязрукі, бо ў часе апошняй вайны яму адарвала правую руку, як працаваў на фабрыцы ў Петраградзе „на абарону". Параілі яму падаць просьбу аб запамогу да ўлады. Сабраў ён якія меў пахманы, прадаў за паўцаны, ды пачаў пісаць „хадатайствы". Змарнаваў час, патраціў якія былі грошы і нарэшце дастаў.... цэлую кладніцу папераў ды ў дадатак, — адмову. Зямлі і кутка гэты бядак ня мае, дык пайшоў жабраваць, хоць цяжка ўздыхнуў, надзяваючы першы раз торбу. Цёўпаючыся ад хаты да хаты, абмыліўся, ды зайшоў да Празароцкага ксянда, хацеў варачацца назад, але спаткаў яго ксёндз і запытаўся, па што прыйшоў. Хоч ня хоч, Грыневіч мусіў папрасіць у яго помачы на сваю беднасьць. „Слуга Боскі" зьмерыў прасіўшага вачыма ад галавы да ног і кажа: „сходзь но до гміны і прынесь засьвядчэне, жэ естэсь бедны, втэды доперо достанеш ялмужнэн". Паверыў Грыневіч ксяндзу ды пайшоў да гміны па „засьвядчэне", але ня рад, што зайшоў, бо там яго хацелі арыштаваць за жабрацтва, ды строга прыказалі не хадзіць па жабрацтву, бо будзе арыштэваны і пацягнены да судовай адказнасьці. Значыць, бедаку трэба згінуць з голаду з жонкай і двума дзяцьмі!.. **Дзядзька.**

## Нам пішуць з вёскі што:

× У Пінску ўночы з дня 1-га жніўня на 2-е былі раскіданы па ўсяму гораду камуністычныя адозвы ў справе амністыі. 2-га раніцай на ўсіх дамох у работніцкіх кварталах было панапісывана крэйдай: трэбуем звальненьня палітычных вязьняў.

Недалёка ад фабрыкі сярчыкоў паліцыя зьняла сьцяг, таксама ў справе амністыі.

× У Грыцавіцкай парахвіі з-пад Клецку поп Герасімовіч так дзярэ з народу грошы, што праваслаўныя пачалі хадзіць да ксяндза, той бярэ пакуль-што менш.

**Ад Рэдакцыі.** Сумняваемся, каб доўга ксёндз быў гэтакім дабрадзеем.

× У в. Сьвіла, Пліскай гм., Дзісьненскага пав., вучыцель польскай школы—Галешэвскі займаецца гаспадаркай, а дзеці да гэтага часу (канец школьнага году) літараў ня знаюць. Гэтага самага вучыцеля злавіў адзін раз солтыс у сваім агародзе, як краў агуркі.

× У двары Бальмонты (Браслаўшчына) 25./VII. г. г. ксёндз П. Бруквіцкі агітаваў у касьцеле, каб сяляне падпісываліся проці „сацыялістычных і бальшавіцкіх урадаў у Польшчы".

**Ад Рэдакцыі.** Падпісываца, ясна, ня трэба. Ксёндз выкарыстае подпісы пасьля проці сялян.

× У в. Шкунцікі, Германоўскай гм., поп пагнаў да хаты селяніна, які, едучы па мэтрыку, зрабіў 70 вёрст. У селяніна Карольжыня не хапала 50 грошаў.

× У м-ку Белавежы, Бельскага пав., у быўшы царскі сад, які польская ўлада зрабіла публічным — цяпер нікога ня пускаюць. Вісіць надпіс „osobom postronnym wstęp surowo wzbroniony". Чаму, хто даў загад—няведама.

× Сяляне м-ка Казлоўшчына, Слонімскага пав., ня хочуць больш атрымліваць прадажнага Паўлюкевічаўскага „Беларускага Слова" (падпісалася 11 асоб).

× У в. Мікалаева, Мікалаеўскай гм., Дзісьненскага пав., 19-га ліпня быў наладжаны беларускі спэктакль. Ставілі „Птушку Шчасьця", „Модны Шляхцюк" і „Стараста". Даход пайшоў на куплю пажарных машын. У хуткім часе сяляне маняцца паставіць „Паўлінку".

× Поп Пагараўскага прыходу, Наваградзкага пав.,—Барыслаў адмовіўся вянчаць А. Кукета за ўмоўленую перад тым суму, кажучы, што селянін багаты і можа больш заплаціць.

× У в. Цэрабостынь, Стаўпецкага пав., — вэтэрынар Сымон Хмель тэрарызуе сялян, запісываючыхся ў „Грамаду", страшучы іх вастрогам.

**Ад Рэдакцыі.** Не зьвяртайце на яго гутаркі ўвагі.

× 3-га жніўня ў Наваградку паліцыянт напісаў пратакол на Уладз. Чубрыка з в. Баранавічы, Райчанскай гм., Наваградзкага пав., за тое, што яго кабыла была ня ўкелзана, а як ехалі паны-палякі коньмі, як зьвярмі, дык паліцыянт толькі па зубох сабе вадзіў пальцам, даючы гэтым знаць, што трэба закелзаць; — пратакслу ня пісаў, ведама-ж гэта паны.

× Войт Райчанскай гм., Наваградзкага пав., п. Рамановскі Казімір і надсэкрэтар Сак у 1925 годзе сарганізавалі „Kółko rolnicze". Сяляне запісаліся, далі па тры злотых і чакалі помачы, а помачы—ніякай! Цяпер войта і Сака прагналі з гміны, дык яны, а грошы—прапалі. Сяляне чуюцца моцца пакрыўджанымі.

× Язэп Ярашук з в. Мочы, Гарадэцкай гм., Наваградзкага пав., быў засуджаны на 11 дзён арышту за тое, што зсёк ёлку ў казённым лесе. У сакавіку ён адсядзеў кару і заплаціў судовыя расходы, а 1-га жніўня йзноў змусілі за гэтую самую справу адсядзець і заплаціць судовыя расходы. Два разы за адну справу.

× 16 га лютага 1926 г. Вэковскія—Юльян, Фэлікс і Пётра — пабілі братоў Тодара і Уладзіміра Раманчукоў з в. Альшанка, Заблудаўскай гм., Беластоцкага пав. Паліцыя напісала пратакол і справа пайшла ў суд. А на судзе пабітыя аказаліся „вінаватымі" і дасталі па 2 месяцы вастрогу, а разбойнікі звольнены, бо падкупілі паліцыю.

# Паштовая скрынка.

**Аўтару вершу: „Ня сьпі, беларус".** Вы ў вершу заклікаеце да арганізацыі гурткоў „Грамады", кажучы:

Трэ ўсім разам станавіцца
І ад падаткаў бараніцца,
Ад падаткаў, ад дарогі,
Што баляць ужо нам ногі...

Слушна! Шкада толькі, што верш у цэлым па форме дужа слабы.

**Бываламу.** Справядліва пішаце:

Хто працівіўся іх волі,
Абдзіранцамі назваў,—
То за скаргу сваей болі
У вастрог сядзець папаў...

Мы як-раз ня хочам, каб і з намі тое-ж сталася, дык і вершу Вашага не зьмяшчаем: за яго пасадзілі-б напэўна.

**Барацьбіту за амністыю.** Атрымалі Ваш голас за амністыю вершам. Думкі добрыя, ды верш слабы. Пішэце свае думкі прозай.

**Селяніну Гарадоцкае гміны.** Верш слабы; працуйце лепш на другім груньце і жывым словам пашырайце думкі, якія зьмясьцілі ў вершу. Калі ўсе возьмуцца да працы, дык пэўне-ж

.... мы збудуем
Сваею сілаю жыцьцё!

**Яну Янкоўскаму.** Вы слушна клічаце ў Грамаду, кажучы, што:

... як разам усе станем—
Бедната усіх краёў,
Зямлю й волю мы дастанем
І пазбудземся паноў...

На жаль, форма Вашых вершаў нявыробленая, трэ' над імі йшчэ добра папрацаваць, узіраючыся на творы нашых найлепшых паэтаў.

**Міхалу Кашкевічу.** Праўда, што, калі-б у нас была еднасьць і добрая арганізацыя, дык мы мелі-б і сілу, і

Прайшлі-б тады дні—дні цяжкай няволі,
Прыйшлі-б тады дні—можа лепшай долі...

Але вершам Вы ўладаеце лішне слаба, каб Вашы творы друкаваць у такім відзе.

**Грам. Беднаму.** Карэспандэнцыі Вашай не зьмяшчаем, бо ня точна падалі Вы факты.

**Грам. Вайцяхоўскаму.** Дзеля таго, што Ваша карэспандэнцыя „Голас з вёскі" была выслана даўно,—на Вашае пытаньне ня можам сказаць, ані „але", ані—„не". Каб залажыць бібліятэку, трэба арганізаваць аддзел „Т-ва Беларускае Школы" і тады зьвярнуцца да Галоўнае Управы Т-ва Бел. Школы" ў Вільні (Wileńska ul. 12) — яна шмат у чым зможа памагчы. Прычым трэцяя частка за кнігі плаціцца пры заказе, а дзьве трэйція часткі ў працягу году дзьвума ратамі. Статут і інструкцыю Т-ва Беларускай Школы вышлем Вам.

**Грамадзянам, прыслаўшым вершы:** Адказ дамо ў наступных намярох.

**Грам. Бур-Жую і Молару:** Вашы карэспандэнцыі ў газэту не падходзяць.

Адказны-Рэдактар: Т. Крачына. Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм П. Мятла.